# Звон.

**Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.**

Рукапісы павінны быць перапісаны чытэльна. Аплата прынятых рукапісаў залежыць ад Рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **м. Мінск, Юбілейны дом.**

Цана нумару 1 марка.

Год выданьня I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня, апрача сьвят ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

**Цана абвестак:**
за 1 радок за тэкстам . . . ? м.
шукаючым працы, за абвестку 2 м.

№ 1. Менск. Панядзелак 25 жніўня 1919 г. № 1.


ў — чытаецца як w; дз — як польскае dz.

Дзеля вялікага недахвату паперы газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: *у панядзелак, сераду і пятніцу.*

**Грамадзяне! Вучыцеся чытаць па-беларуску. Гэта ў вашых інтарэсах. Годзі выстаўляць сябе на сьмех перад культурнымі людзьмі!**

## Загад № 2.

На падставе Урадовага Дзеньніка № 1.

Ст. 1.

На абшарах занятых польскімі войскамі урадовай мовай лічыцца **мова польская.**

Урадовые загады будуць выдавацца ў польскай мове побач з перакладам **на мову беларускую.**

Першае месца займае аснова польскай мовы.

Ст. 2.

У сваіх зносінах з уладай насяленьне можа ужываць, побач з польскай, также **мовы беларускай.**

Менск, дня 20 жніўня 1919 г.

Намесьнік Генеральнага Камісара Менскага Округу *Ул. Рачкевіч.*

Адміністрацыйны Кіраўнічы Справамі *Мешчаноўскі.*

## Апавяшчэньне II.

На абшарах, занятых польскімі войскамі і польскай уладай, касуюцца ўсялякіе бальшавіцкіе установы, а так сама выдадзеные імі пастановы і прыказы.

Намесьнік Генеральнага Камісара Менскага Округу *Ул. Рачкевіч.*

Адміністрацыйны Кіраўнічы Справамі *Мешчаноўскі.*

## Нашае заданьне.

Мы будзем бараніць інтарэсы працоўнага народу. Мы будзем дакладаць усіх стараньняў, каб як найскарэй споўнілася жаданьне нашага спакутанага сялянства адтрымаць сабе зямлю, а рабочым ў горадзе і вёсцы—адпаведныя варункі працы, роўные з тымі, якімі карыстаюць усе рабочые культурных старонках.

Мы будзем старацца аб тым, каб вярнуць дадому нашых пакутнікаў-бежанцаў, параскіданых па талодных абшарах бышай Расіі. Мы будзем дамагацца, каб ім памаглі і далі магчымасьць адбудаваць свае зруйнованые сялібы коштам скарбовай дапамогі.

Мы ані на момант не забудземся, што наша старонка—беларусь—зруйнована вайною і крывавым панаваньнем маскоўскіх бальшавікоў. Мы ведаем, што калі што захавалося ад вайны, тое не ўратавалося ад маскоўскіх бальшавіцкіх грабежнікаў. Дзеля гэтага першаю і сьвятою павіннасьцю кожнага грамадзяніна нашае Бацькаўшчыны—працаваць над тым, каб падняць нашу старонку з руін занепаду і паставіць яе на яе ўласные ногі.

Мы будзем даводзіць свайму гаратліваму народу, што не паздбудзецца ён ліха ніколі, калі не адбудуе свае ўласнае Беларускае дзяржавы, свайго роднага Беларускага Гаспадарства. Толькі тагды, калі народ наш не захоча быць нікім іншым, а толькі *Беларусам* з сваею роднаю мовай і культурай,—толькі тагды ён возьме сваю долю ў свае рукі і забудзе сабе тое, чаго дамагаецца і што патрэбно для вольнага культурнага жыцьця.

Толькі утварыўшы сваё беларускае вайско і праз яго злучыўшы ўсе свае беларускіе землі, народ наш здолае сыціся на свой Установчы Сойм, выявіць сваю волю і знайці сабе сваіх прыяцеляў і саюзьнікаў.

Толькі тое моцна і трывала, што будуецца на цьвёрдым гістарычным грунці, а гэты гістарычны грунт гаворыць пра тое, што нам трэба збавіцца ад тае палітычнае сувязі, каторая ўкінула нашу старонку ў пожар сусьветнай і грамадзянскай вайны, абярнуўшы наш край у попел пажарышча і параскідаўшы наш люд па ўсяму беламу сьвету.

Што тычыцца нашых адносін да Польшчы, то мы зьвяртаемся да польскай дэмакратыі, з гэтакімі словамі: колісь, за часоў бышага Вялікаго Князьства Беларуска-Літоўскага, нашы продкі памаглі вашым продкам збавіцца ад немецкай крыжацкай навалы; колісь супольна мы бараніліся ад нашых ворагаў і былі дужые і культурные, але калі Польшча перастала паважаць нашы дзяржаўные і культурна-нацыянальные патрэбы, то гэта прывяло да згубы і доўгалетняго палону і нас і вас. Гэта цяжкая гістарычная навука павінна кіраваць усею нашаю і вашаю палітычнаю чыннасьцю, не даючы забыцца ані на момант, што Беларусь павінна быць *Беларусьсю*, а не „усходняю зямлёю".

## Да насяленьня б. В. Кн. Беларуска-Літоўскага.

Ваш край ужо стокалькідзесят гадоў ня ведае свабоды, гнябёны варожым гвалтам расейскім, немецкім, большэвіцкім,—гвалтам, каторы, ня пытаючыся насяленьня, накідаў чужацкіе прымернікі паступкаў, зьвязываючы волю, часта ламаючы жыцьцё.

Гэтакая бязупынная няволя, добра вядомая і мне самому, як радзіўшамуся на гэтай нешчасьлівай зямельцы, павінна быць урэшці спынена і на гэтай быццам забытай праз Бога староньцы павінны запанаваць свабода ды правы свабоднай нічым незьвязанай гутаркі аб жаданьнях і патрэбах.

Польскае войска, каторае я з сабой привеў, каб выкінуць гаспадараваньне гвалту і сілы, каб спыніць кіраваньне краем процiў волі жыхароў, гэтае войска нясе ... усім Вам свабоду.

Хачу Вам даць магчымасьць развязаць унутранные нацыянальные і рэлігійные справы гэтак, як самі захочаце, без якога-небудзь гвалту або націску з боку Польшчы.

На поўдні ад Барысава нашы перэдніе аддзелы даходзяць да г. Бярэзіны, Сьвіслачы і Асіповіч. На паўночным кірунку **вораг адступіў** ў райёне Касян **пад напорам** нашых сіл за рэчку Дзісну. Адначасьне разьвіваліся ў райёне Глыбокае заўзятые баі.

**Фронт Палескі.** На кірунку Лунінец ажыўлёнвая баявая чыннасьць нашых перэдніх аддзелаў.

**Фронт Валынскі.** На поўнач ад Бярэжна пад Случам нашы аддзелы дасьцігглі ліні Клешава, Тамашгорад; далей паўздоўж рэчкі Льва на Аверны вораг адступае ў кірунку на Алеўск.

Нашые конные аддзелы ачышчаюць лясы ад узброеных бальшавіцкіх банд.

**Фронт Галіцыйскі.** На фронце паўздоўж Збруча і далей па поўнач на Астрог—спакойна.

Сп. абав. начальн. гэн. штабу **Галлер**, палкоўнік.

———

Ад 21 жніўня 1919 г.

**Фронт Літоўска-Беларускі.** *Усходні кірунак.* Вораг робіць акопы на ўсходнім беразе Бярэзіны, сьцягваючы ў райёне Барысава большые сілы. Наша кавалерыя в боем заняла вёску і станц. Старые-Дарогі. На усход ад Слуцку 40 км. вораг панёс вялікіе страты і адступіў на ўсход. Адступаючы, хацеў спаліць ж.-дарожные і шасовые масты, але замеры яго не удаліся.

Правае крыло вялікапольскай групы адкінуло ворага да Асіповіч, каторы адступае на Татаркі; мы захапілі палонных і 20 вагонаў. Паміж палонных—намесьнік шэфа штабу 8 пяхот. дывіз. Далей на поўнач аддзелы тэй групы дасьцігглі лініі р. Бярэзіны і абляжылі м. Свіслач—Бычын—Бярэзіну.

На кірунку 2 дыв. Лег. сітуацыя без перамены. У Осове захвачан адзін паравоз і 2 бэрлінкі, што вярочаліся з Бярэзіны да Бабруйску пасьля адвозу бальшавікоў (180); вораг ў далейшам кірунку трымае лінію Глыбокае—Варганы—Козлы—Слабодка, гдзе ставіць досыць сільны адпор.

У кірунку на Бярэзіну нашы аддзелы выбілі ворага, занялі лінію Пятровічы—Валодзя (8 км. на поўнач ад Докшыцы).

*Кірунак заходні*—без перамен.

Ад 21 жніўня 1919 г.

**Фронт Літоўска-Беларускі.** На паўночнай часьці фронту на ліві Глыбокае бой цягнецца. Нашы аддзелы дасьцігглі і абсадзілі лінію Бярэзіны ад уйсьця р. Ушы па Сьвіслач. Посьле заўзятаго бою мы занялі Асіповічы і адкінулі праціўніка ў кірунку Татаркі. На участку Лунінца ажыўлёная чыннасьць нашых разьведчыкаў.

**Фронт Валынскі і Галіцыйскі.** Спакойна.

Сп. аб. Шэфа Гэн. Штабу **Галлер**, палкоўнік.

# Маленькі фэльетон.

## Навучыўся.

Аддаў Гілёрык свайго сына, Андрэя, ў навуку.

— Нятай павучыцца, розуму набярэцца,—казаў ён.—Вучонаму на сьвеце лепш жыць, як невуку. Можа і нам, цёмным, пакажа, як трэба жыць. Хоць на старасьць палёгкі дачакаемся.

Паехаў Андрэй у горад і пачаў вучыцца.

Мінуў год, другі і трэці праходзіць. Піша Гілёрык сыну ліст:

«Даражэнькі сынок! Чаму ты нам нічога ня пішаш? Як табе жывецца, ці скора навуку скончыш? Чакаем мы цябе, не прычакаемся. Я з маткаю пастарэлі. Працаваць цяжка. Гаспадарка марнее. Асталася адна кароўка, Рагуля, і сівая авечачка, Тарэся. Едзь, сынку, дадому. Пабыў у людзях, пабачыў сьвету ды на радзіму варочайся».

Андрэй мала думаў пра дом. Прывык ён жыць па-новаму. Любіў доўга спаць, смачна есьці, модна ўбірацца. У кішэньцы насіў бутэлечку з духамі, як ішоў на спацыр. Прачытаўшы бацькаў ліст, ён адпісаў:

«Паважаны айцец і матка! Не магу зараз прыехаць дадому. Вучэньня яшчэ ня кончыў. Цераз год прыеду. А цяпер пришлеце, калі ласка, грошай, бо яны мне вельмі патрэбны. Калі няма гдзе ўзяць, дык прадайце авечку. Ня варта дзяржаць сівых авец, ды й сівая воўна брыдкая».

Прадаў бацька Тарэсю і паслаў Андрэю дванаццаць рублёў.

Прайшло яшчэ з паўгода. Андрэй часта прасіў грошай у бацькі, але Гілёрык не пасылаў, бо ў самога ня было. Абарваўся ён, абшарпаўся, забыўся і пра моду. На сьвяты прыехаў дадому ў госьці.

Бацька насілу пазналі яго. Андрэй адмяніўся. Нават, гаварыў ня так, як усе, і амаль не да кожнага слова дадаваў «моя».

— Як гэта завецца на-вашаму? —запытаўся ён, паказваючы на палазэ ў санях.

—Гэта-ж палазэ,—адказаў бацька.

— Ха-ха-ха, палазэ, палазэ! А што гэта ў іх прычэплена спераду?

— Як што? Аглоблі.

— Аглоблі, аглоблі! Га-га-га, цікавасьцы!

Селі палуднаваць.

— А як гэта страва завецца па вашаму?—запытаўся Андрэй і сербануў з ложкі; як сербануў, дык і вочы вылупіў.

— А каб яго немач з гэтым квасам! Увесь язык апёк.

— А што, успомніў,—засьмяяўся бацька.—Ось хіба ты апар яго, тагды ўсё назавеш.

Вылезьлі з-за стала. Андрэй ужо ня пытаўся, як што завецца, апрануў бацькаву бурку і кажа мацеры:

— Добрая адзёжа! Як цёпла у ёй.

— Гэта-ж, сынок, з сівае авечачкі, што бацька прадаў летась.

*М. Міцкевіч.*

# ЗВОН.

Зазвані моцна, звон, загудзі,
Каб пачулі цябе на увесь край,
Беларуса хутчэй разбудзі,
Хоць цяпер яму спаць ты ня дай!

Прышоў час, калі сорамна спаць:
Усе так шчыра за працу узяліся,
Усе жыцьце пачалі будаваць,
А ты сьпіш... Хоць ад звону прачнісь!

Паглядзі, як сусед пачаў жыць,
Што нядаўна нявольнікам быў,
Ен ня спаў,—і цяпер ен ня сьпіць,
Усім кажа, што ен яшчэ жыў.

А чаго, беларус, ты маўчыш?!
І табе годзі, братку, драмаць:
Калі можна гукаць—ты маўчыш,—
Каб пасля ня прышлось шкадаваць...

Кінь сароміцца мовы свае,
Звацца сябе беларусам пачні,
Папрацуй над сялібай раней,
А пасьля з ахвотай адпачні!..

Дык звані моцна, звон, і гудзі,
Сваім гукам глушы увесь край!
Хто шчэ сьпіць—ты таго разбудзі,
Хто не сьпіць—тых да працы зьбірай!

**Міхась Кудзелька**

* * *

Мой ты краю родны, мілы,
Прывітаньне табе шлю!
Звонам чыстым, з усей сілы,
Вестку добрую званю:

Бальшавіцка счэзла мара,
Ужо далека недзе—там...
Залатая долі чара
Усьміхнецца мо' і нам.

**В. Л.**

*Рэдактар-выдавец*
*І. ЛУЦЭВІЧ.*



З дозвал. Цэнзуры.

Друкарня Я. Грынблята, Менск.